# БУДЗЕМ РЫХТАВАЦЦА.

По пастанове ЦБ ЮП падрыхтоўчая работа да сьвяткаваньня Кастрычнікавай рэволюцыі ў піонэрскіх атрадах павінна распачацца з самага пачатку верасьня. Ва ўсёй рабоце належыць выходзіць з таго, што к 10-годзьдзю Кастрычніка падлічваецца праробленая праца за ўвесь час існаваньня сваёй організацыі, намячаецца новая праца, уцягваецца ў сьвяткаваньне Кастрычніка маса неорганізаваных дзяцей.

Сьяткаваньне Кастрычніка—згодна ўказаньням ЦБ ЮП—у піонэрскіх атрадах трэба організаваць і правесьці так, каб адчувалася *бадзёрасьць, сьвяточнасьць, жыцьцярадаснасьць*, а дзеля гэтага піонэрскія атрады і праводзяць работу сярод бацькоў. Піонэры дабіваюцца, каб к гэтаму сьвяту былі прыбраны памяшканьні, адзета чыстае адзеньне і, наогул, каб адчувалася, што гэта адно з вялікіх сьвяткаваньняў працоўных.

Вядома, што піонэрскі атрад павінен будзе зьявіцца галоўным зьвяном, навокал якога будуць гуртавацца ўсе дзеці прадпрыемстваў, вёскі, раёну, дзе працуе атрад. Адсюль вынікае, што атраду належыць добра падрыхтавацца і правесьці сьвяткаваньне.

Атрад ня толькі рыхтуецца організаваць к Кастрычніку вечар, а пры дапамозе грамадзкіх, профсаюзных і партыйных організацыяў, організоўвае розныя практычныя мерапрыемствы. Прыкладна: праводзяць работу па абсталяваньню майстэрні ў сваім атрадзе альбо школе, наладзіць радыё-прыёмнік, організаваць падпіску на дзіцячую часопісь, абсталяваць клюб і г. д. Кожны атрад можа выбраць што-небудзь з гэтых мерапрыемстваў і правесьці ў сваіх умовах. Побач з гэтым вядзецца падрыхтоўка да вечара, які лепш за ўсё організаваць у вёсцы разам са школай, а ў горадзе і мястэчку паасобна. Дзеля таго, каб у самую падрыхтоўчую работу ўцягнуць піонэраў, побач з выкананьнем зьвеньнямі заданьняў, якія даюцца саветам атрада, згодна выпрацаванага пляну па правядзеньню сьвята, піонэры разьбіваюцца па свайму жаданьню на невялікія групы для работы. Групы могуць быць: па падрыхтоўцы да Кастрычніка жывой газэты, дэкламацыяў (колектыўных, індывідуальных), п'есы, даклады к вечару (рыхтуецца колектыўна, па частках — 8-10 чалавек), група фізкультурных выступленьняў і г. д. Рэдкалегія рыхтуе выданьне насьценнай газэты.

Такая праца, як упрыгожваньне клюбу, організацыя розных мерапрыемстваў, выстаўкі, разьмяркоўваецца па зьвеньях, а не па групах, якія складаюцца добраахвотна.

### Організацыя выстаўкі.

Гарадзкія і местачковыя атрады організоўваюць выстаўку самастойна, хаця можа быць організована выстаўка і двума-трыма атрадамі па саюзах (будаўнікі, працасьветы і г. д.), вясковыя атрады наладжваюць гутаркі сумесна са школай, на якой павінен быць асобны куток піонэрскай работы.

Што піонэрскі атрад дае на выстаўку? Папершае, ня трэба рыхтаваць выстаўкі толькі для хараства, а трэба праз пэўны падбор матар'ялаў—экспанатаў даць поўны малюнак з той ці іншай галіны работы, правадзімай піонэрскім атрадам.

Разьмеркаваньне матар'ялаў на піонэрскай выстаўцы можа быць паказана ў

*(Працяг на 3-й стар. вокладкі).*

## ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: Г. БРЫГНЕВІЧ, С. ЖУРАЎСКІ, М. МАМЧЫЦ, А. ПЯКАРЧЫК, А. ЯКІМОВІЧ.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

№ 18 ВЕРАСЕНЬ 1927 г.

## У гэту восень...

Агалела пушча, льлюцца кроплі-сьлёзы,
Разам з дзікім ветрам стогнуць вербалозы...
Ў сьвітачцы парванай, да касьцей прамокшы,
Дзед з сваім унукам даплятае кошык.
Эх, ты, гора, гора, доля сіраціны,
Няма шчасьця, хлеба і сваёй хаціны.
Рос сярод балотаў, слухаў песьні бору,
Век ня бачыў шчасьця, ўзгадавала гора.
А цяпер-жа з дзедам, што з радні астаўся,
Быдла ў вёсцы пасьвіць ён з вясны наняўся.
На вайне праклятай бацька дзесь загінуў,
Кінула і маці сына-сіраціну.
. . . . . . . . . . . . . . .
— Раскажы мне, дзедка, казку аб мінулым,
Раскажы мне праўду, як сьвісталі кулі?..
Раскажы мне, дзедка, як тады жылося,
Колькі рэчак нашай крыві пралілося?..
Дзед прыжмурыў вочы, капнула сьлязінка,
На лісты упала, як вясной расінка.
— Сем гадоў мінае ў гэту восень, дзеткі,
Як паноў прагналі мы з сваіх палеткаў...
А было раней шчэ—мы жылі ў прымусе,
Перад панам-катам я у ногі гнуўся.
Працаваў ад раньня і да зор бліскучых.
Ня было адзеньня, а адны анучы.
Як падрос твой тата, на вайну забралі,
Ад хваробы матку тваю пахавалі.
Ты адзін астаўся круглай сіратою,
Цяжка было, ўнучак, мне жыцьцё з табою.
. . . . . . . . . . . . . . .
Каб зямлі кусочак мы з табой дасталі,
Працаваць на ёй-бы шчыранька пачалі.
Ты хадзіў-бы ў школу, кнігу ўзяў-бы ў рукі,
Стаў-бы чалавекам і ня знаў-бы мукі.
— Я пайду у школу гэтаю зімою,
Што у кніжках пішуць будзем знаць з табою!
Я пайду у воласьць, там зямлі дастану,
Піонэрам вольным Беларусі стану!
Што сказаў унучак, тое і збылося,
Новымі шляхамі жыцьцё завілося.
. . . . . . . . . . . . . . .
Дзед з сваім унукам вышлі на пасёлкі,
Вычыталі ў кнізе, завялі шматполку.
Ўдвох цяпер працуюць, дзе губляў дзед сьлёзы,
Дзе так нудна пелі елкі і бярозы...
А цяпер у раньне, як сьмяецца сонца,
Залівае сьветам поле, луг бясконца,—
І у гэту восень дзесяць год мінае,
Як унуку й дзеду сонца ясн а зьзяе

Піонэр **Сяргэй Грахоўскі.**




# Кіпарысавая галінка

Апавяданьне з жыцьця крымскіх дзяцей **В. Рызьнічэнкі.** Малюнкі **А. Абрамава.**

I.

Сягоньня цудоўны дзень. І сонца сьвеціць, як ніколі. Сягоньня цёпла, цёпла і мора такое лагоднае—ціхае. Вузенькаю сьцежкаю ідзе Фаціма. Сьцежка ўецца сярод зелені, гадзюкаю круціцца між кустамі. Кізіл і дуб, пераплеценыя плюшчам, стаяць, быццам два браты. Фаціме ня ў першы раз хадзіць гэтаю сьцежкаю да мора. Вось ёй ужо 8-мы пайшоў. Даўно яна ходзіць так. Спачатку з братам сваім Алімам хадзіла, а цяпер сама.

Перад ёю матылёк доўгімі жоўтымі крыльцамі ўецца, на хвілінку сядзе на травінку, адпачне і паляціць сабе зноў далей. Неўгамонны. А больш ад яго неўгамонныя—гэта цыкады (konікі). Пстрыкаюць, аж у вушах зьвініць.

Узяла кіёк Фаціма, падышла да дуба, што з кізілам зросься, і стала.

Вось, вось дзесьці тут недалёка цвыркае і чуваць, ды ня відаць. Доўга стаяла так Фаціма, доўга дзівілася і ўбачыла:

На невялічкай галінцы сядзеў вялікі шэры конік. Сетчатыя крыльцы злажыў, сядзіць і цырыкае. Фаціма закранула палачкаю. Сядзіць цыкада. Фаціма закранула мацней—цыкада ўсхапілася, пераляцела на другую галінку і зноў цырыкае.

Паглядзела на яе Фаціма і пайшла сабе далей. Сьцежачка вывела яе на бераг, да каменьняў. Вялікія каменьні, быццам скалы, спусьціліся ў мора, накрышылі навокала сябе дробных каменьчыкаў і стаяць так, дрэмлюць супроць сонца. А сонца грэе... Награвае бераг, ваду...

Фаціма падкасала спаднічку і ступіла ў ваду. Цёплая вада прыемна заказытала ногі. Яна пахадзіла трошкі па беразе і падышла да каменьняў.

— Ого, які,—радасна крыкнула Фаціма, убачыўшы пад каменем вялікага краба[1]). Краб, відаць, занепакоены гэтым, заварушыў клешнямі і хутка-хутка падаўся бокам пад камень, але Фаціма спрытна схапіла яго за сьпінку і кінула ў кошык.

Яшчэ такога вялікага ёй не даводзілася злавіць, больш усяго яна знаходзіла маленькіх, маладзенькіх крабаў.

Доўга падымала яна каменьчыкі і зьбірала крабаў. Гэта быў яе заработак.

[1]) Краб—морскі рак.

Крабаў яна насіла ў горад і прадавала грэкам, а тыя выраблялі з іх розныя цацкі для прыяжджаючых панянят. Фаціма ніколі ня бачыла прыгожае цацкі. Вось ужо колькі часу, як яна гэтым зарабляе грошы для сям'і. Раней дык з братам Алімам лавіла крабаў, а калі брат пайшоў у Яйлы пасьвіць чужыя авечкі, тады адна асталася Фаціма. Бацька Фацімы—стары Оглы — ходзіць таксама на заработкі. Насільшчыкам працуе ён. Калі прыходзіць карабель з-за мора сіняга, мора бязьмежнага, стары Оглы бяжыць туды. І кожны дзень там, да позняга вечару, сагнуўшы сьпіну, носіць розныя рэчы з карабля на бераг.

Доўга Фаціма зьбірала яшчэ крабы. А калі сонца схавалася за высокія кіпарысы [1]), яна з поўным кошыкам крабаў пайшла сьцежкаю дахаты.



*Доўга падымала яна каменьчыкі і зьбірала крабаў.*

Надыходзіў вечар. З гары пацягнула прахалодаю.

Фаціма здрыганулася ад сьвежага ветру і хутка пабегла па сьцежцы, спатыкнулася аб каменьчык, ускочыла, сьціснула зубы ад болю і пабегла далей.

II

На вялікім пляцы быўшага урусхана [2]) чуецца звонкі сьмех, радасныя сьпевы, выгукі.

Як тут добра! Як прыемна!

Шырокая сьцежка ўсыпана жоўтымі каменьчыкамі. Каменьчыкі дробныя-драбнюсенькія скрозь па сьцежцы. Наляціць вецер, павее зьлёгку—і зашапочуць, зашалясьцяць пад нагамі каменьчыкі. Хто ведае, аб чым яны шапочуць—мабыць, казачкі пра сіняе мора, і пра сіняе мора, адкуль іх прывезьлі. А кіпарысы, нібы стрункі, гойдаюцца сабе ад ветру. Гойдаюцца і таксама шапочуць. Пра тое, што бачылі тут, шапочуць.

А бачылі яны:

Вось гэтымі самымі сьцежкамі, якія ўсыпаны каменьчыкамі, сярод рознастайных заморскіх кветак у вялікай „арбе“ езьдзіў урусхан з людзьмі, якія блішчэлі ад золата і ад пыхі сваёй вялікасьці.

Яшчэ здаўна тут гулялі толькі людзі ў золаце. Урусхан, найвялікшы з усіх ханаў, уладар краіны ад мора Белага да мора Чорнага і Ціхага жыў тут улетку, гуляў. Толькі для яго, для яго пацехі былі прывезены з далёкага Захаду высокія, стройныя доўгалетнія мамутавы дрэвы.

Якіх толькі кветак ня было...

Ды ня вечна кветкі будуць упрыгожваць вочы людзей, ня вечна сваёю пекнатою забаўляць будуць іх.

---

[1]) Дрэвы, падобныя да нашай елкі.

[2]) Цара рускага.

Наляцела бура, бура-віхар вялікі. Махнула крылом, завіхрыла людзей у золаце і самага урусхана вялікага схапіла і кінула ў мора з бразгатам, з грукатам, з песьнямі вясёлымі...

Ня вялікім пляцы урусхана цяпер звонкі сьмех, звонкія радасныя песьні.

Між кіпарысаў іхьлецца прыгожы сьпеў, мільгаюць чырвоныя гальштукі.

— Яш ленінчэ [1]), Будзь гатоў!

— Заўжды гатоў!

Гэта Яш ленінцы бавяцца там і вучацца.

Вось выскачыла з кола дзяўчынка. Выскачыла і падкінула мяч угору. Мяч высока-высока, а вочы дзяўчынкі сонечным сьмехам так і расплыліся.

Дзяўчынка — то Фаціма-піонэрка.

III

Калі месяц выплыў над морам і ўскінуў срэбны шлях на хвалі, а кіпарысы зашапацелі вячэрняй песьняй, на былым двары урусхана затарахцелі дзіўныя машыны на шырокіх вялікіх колах.

На гэтых дзіўных „арбах", якія едуць самі без каня, прыехалі людзі з чужой зямлі ў госьці. З далёкай панскай зямлі прыбылі госьці падзівіцца, як жывуць і працуюць без урусхана на зямлі вольнай.

Вось з боку вялікага мураванага палацу, былога урусханскага, народ сабраўся.

Народу, народу!..

Яшчэ ніколі палац ня бачыў так шмат людзей, як цяпер. Вось каля сьцяны на нейкім услоне стаіць чалавек і гаворыць пра штосьці. Хоць і гаворыць ён на чужой мове, але аблічча і вочы ў слухачоў радасьцю пакрыты, бо зразумелая тая мова для іх, бо новае блізкае на мове чужой гаворыць ён. Пасьля на яго месца ўзышла дзяўчынка.



... а ў руцэ галінка зялёная кіпарысавая.

Невялічкая такая, смуглявае аблічча.

Узышла і махнула рукой да людзей, а ў руце галінка зялёная кіпарысная апавіта чырвонаю істужкаю. Падняла дзяўчынка галінку і загаварыла. Загаварыла Фаціма да людзей з чужой зямлі. Прывітаньне ад Яш ленінчэ далёкім братом—братом-піонэрам прасіла перадаць.

З зямлі вольнай перадавала галінку кіпарысавую з чырвонай істужкаю.

— Нашы маладыя сэрцы гараць, быццам гэта істужка на сонцы.

— Мы жадаем такой-жа радасьці і вашым дзецям!

Смуглявае аблічча Фацімы — быццам агонь.

* * *

Праз нейкі час у далёкай Нямеччыне Карл Іоганаў з Эльзаю да портрэта Леніна прыкалолі кіпарысавую галінку.

Калі прыкалолі і глянулі, здалося ім, што Ленін усьміхнуўся.

---

[1]) Юны ленінец.




Поэма піонэра **К. Шавеля**

Малюнкі вучня **З. Ракава.**

## Частка 1-ая

### I

Па гасьцінцы, па шырокім,
Што бярозамі аброс,
Ідзі на захад; недалёка
Напаткаеш ты саўхоз.

І ў тым саўхозе з краю
Пры гасьцінцы ўбачыш ты:
Хатка бедная, старая,
А кругом яе кусты...

Тут акацыі, парэчкі
Абступілі хатку ў круг.
Тут-жа блізка з шумам рэчка
Аксамітны рэжа луг.

Клёны, вязы па-над хаткай
Неразгадна шапацяць;
Прытуліліся к ёй, як матка
Прытулілась да дзіцяці.

Пад вакном квітнеюць кветкі,
Подых сьвежы льлецца з іх,
Заўжды тут гуляюць дзеткі,
Скутак добры для малых.

Тут растуць кусты агрэсту
(Для дзяцей тут радасьць зноў!),
Стужкай-зьмейкаю пярэстай
Завіваюцца ў акно.

Хатка бедная, крывая—
Паваліў-бы яе ўтрох,—
Але-ж спрытна выглядае,
Калі ўвойдзеш у нутро.

Пол маленькі каля печы
З новых дошчак там відны,
Далей ложачак старэчы
Прытуліўся да сьцяны.

Сьцены выбіты газэтай,
Спрытна глянуць і ў гару;
Усё прыгожа ў хатцы гэтай,
Аб якой я гавару.

Ля сьцяны прыперліся лавы,
Каля лаў у куце пол,—
І наогул ўсё цікава,
Калі глянеш навакол.

Абразоў няма у куце:
Лад стары пайшоў на бок,
А прыгожы такі, слаўны
Піонэрскі там куток.

На прымурку кот муркоча,
Мусіць, шэры смачна сьпіць.
Вэнцэляцыя ў рабоце—
У сьцяне шуміць, шуміць.

### II

Ой, колькі ўбачыш пекнаты,
Калі зірнеш з узгорку ты,
Ля гаю, што травой парос,
Туды, туды на той саўхоз.
А колькі дрэў там кучаравых,
Зусім падобных да дубравы.
А на сярэдзіне відніцца
Палацу вежа-камяніца.
Вось паравік і ўдзень і ўночы
Рагоча, ляскае, рагоча.
Жывы малюнак—сад саўхозкі,—.
Бурліць жыцьцё і чуцен лёскат.
Каля саўхозу між парэчак
Цячэ, кіпіць, бурліць рэчка.

### III

У хатцы тэй жыў цівун пана.
Шмат чыніў людзям пакут,
А цяперака Іван наш
Для жыцьця заняў той кут.

А Іван каваль—рабочы,
Ён прывычны працаваць,
І заўсёды ён ахвочы
Гнуць жалеза, сталь каваць.

Каля рэчкі, ля бурлівай,
Там дзе пеніцца вада,
Пад вярбою гаманлівай
Стаіць кузьня—новы дах.
Новы дах, зусім 'шчэ новы,
Тыдні два як збудаван,
На ім вецер верасьнёвы
Сьцеле ліставы дыван.
Ў гэтай кузьні з дахам новым
Палыхае ў горне жар,
Па кавадле па сталёвым
Грукаціць молат-цяжар.
Шмат работы у Івана,
І ліецца песьні гук:
„Ўстань пракляцьцем катаваны,
Устань, хто з голаду век пух“.

IV

Дзень прагоніць ночку,
Раніца настане,
А гадзіньнік скажа:—
„Сёньня сем гадзін“.
У саўхозе праца
Бурапеніць стане,—
Ўсе ідуць на працу
Дружна, як адзін.
Паравік рагоча
Моцна, дружна, ёмка,
І рабочы едзе
На стальным кані.
Па-над рэчкай ў кузьні
Голасна і звонка
Па кавадле молат
Усё зьвініць,
зьвініць.
Гэта Янка дружна
Молатам так звоніць,
Бронь-падростак дружна
Дзьме ў кавальскі мех.
Ў кожнага з іх часам
Думка думку гоніць,
Ў кожнага з іх часам
Льлецца гучны сьмех.
— Можа, дзядзька, збаеш
Казку мне сягоньня?—
Запытае Ўладзік,
Бронь-падростак той.
— Ну, дык добра, добра,
Мілы мой саколе!
... Гэта было неяк
Познаю зімой.
З памятнага часу
Дваццаць год мінула,
Але гэта помню
Добра, як цяпер.

Помню, завіруха
Сьнегам моцна дзьмула...
(Толькі-ж то ня казка,—
Хочаш вер, ня вер).
Я ды шмат рабочых
Сабраліся кучай,
І пайшлі пуцінай
Сьцежкаю у лес.
Кожны з нас у час той
Захацеў налучыць,
Як тудою будзе
Ехаць пан Залес.
Ўзброіліся „добра“—
Палкаю, сякерай
(Пульхны сьнег памалу
Усё імжыць, імжыць).
Пан уеўся ў сэрца
Злоснаю пантэрай—



*Бронь-падростак дружна дзьме ў кавальскі мех.*

Нельга з гэтым катам
Далей гэтак жыць.
Батракоў ў маёнтку
Моцна ён катуе:
Моца б'ецца палкай
Кожнага ён дня.
— Ціха, ціха...—чуем.
Хтосьці едзе шпарка—
Гэта-ж пан наш едзе,
Моцна у санях.

— Гэта ён—брадзяга,
Гэта ён—пантэра...—
Нехта ў кучы нашай
Гвалт такі падняў.
Вышлі на дарогу—
Палкаю, сякерай,
Дружна мы забілі
Пана у санях.
Закапалі пана
Гуртам мы вялікім,
Конь ад перапуду
Ў цёмны лес пабег.
А ў паветры цьмяным
Пчоламі бяз ліку
Ня зямлю кладзецца
Пульхна-белы сьнег.
На‘т ніхто ня ведаў,
Хто забіў быў пана,—
Бо цівун, што ехаў,
Разам быў забіт.
Нават падарожнік
З страхам заўтра рана
Не глядзеў на сьнег той,
Што крывёй абліт:
Дочыста засыпаў
Пляму на дарозе
Белаю палёнкай
Срэбна-чысты сьнег.
Раніцой к палацу
Стомлены, ў зьнямозе,
З вупражжу парванай
З саньмі конь прыбег.
Я быў то-ж паўстанцам,
Змагаром-вялікім...
Здабылі мы ліпень,
Скончыўся прыгон!
Ў гэты дзень бунтарскі
З песьняю юнацкай
Беларусь спаткала
Радасьць новых дзён“.
Ну, а што, Уладзік,
Як табе, цікава?
Мо‘ не спадабалась
Казка, бач, мая.

„О, ды не, мой дзядзька,
Не ды не, яй права,—гэтакаю казкай
Зьдзіваваўся я“.
Зноў у іх паволі
Думка думку гоніць,
Ці заводзяць песьню,
Ці заплешча сьмех.
Па кавадле молат
Звоніць, звоніць, звоніць,
І жудой панурай
Дзьме кавальскі мех.

V

У рабочага Івана
Спрытны быў сынок Сьцяпан,
І ад вечара да рана
Ён—над быдлам ў полі пан.
Мала ён бывае дома:
Каля быдла цэлы дзень.
Поле, лес яму вядомы,
Там гудзе, як авадзень.

Ой, Сьцяпанку нудна ў полі
Дзень ля быдла каратаць,
Кніжку ён бярэ й на волі
Пачынае там чытаць.

Яшчэ сонца не прагоніць
Над далінаю туман,
На плячох-жа з торбай гоніць
Быдла ў поле наш Сьцяпан.

А як статак прыганяе,
Ой, бяз меры Сьцёпка рад:
Ён з сябрамі пашагае
У піонэрскі свой атрад.

Ў пана тут былі палацы,
Весяліўся калісь пан—
Цяпер клюб саўхозкі „Праца“
З тых палацаў збудаван.

На пляцоўцы, на юнацкай
Піонэры там пяюць.
Сьмех бадзёры маладняцкі
Кожны вечар можна чуць.

Або іх важаты Грышка
(Добры ёсьць і добры быў)
Прынясе на збор к ім кніжку,
Ўвесь чытае колектыў.
Матка Сьцёпкава, Агата,
Маладая—трыццаць год,
Між рабочых свайго штату
Працавала з году ў год.

А Сьцяпан—пастух саўхозкі—
Быдла ў полі ўсё пасе.
А ў сэрцы новы лёскат,
Радасьць поўніць думкі ўсе.

Сябрам меў Сьцяпан Уладзю,—
Ён найлепшы ад усіх!
Хата Уладзі была ў садзе,
Ох, ішло-ж сяброўства ў іх!

Я магу сказаць вам сьмела:
Хто на сьвеце колькі жыў,
Гэтак шчыра і умела
Між сабою ня дружыў.

Ох, і добрыя дружакі,
Быццам родныя браты,
На грудзёх ў іх гальштук макам
Расьцьвітае залатым.

VI

Гарманісты Ўладзік хвацкі
А іграе—о-ё-ёй!—
Ён заўсёды заліхвацка
На трохрадцы на сваёй.
Вось дагэтуль у саўхозе
Гэтак сама Ўладзік жыў.
Бронь падросткам на заводзе
Ў тым саўхозе хлопец быў.
Працаваў Уладзік з братам,
Удваіх яны й жылі,
Бо даўно ўжо матка з татам
Дзесьці парацца ў зямлі.



*Кніжку ён бярэ й на волі пачынае там чытаць.*

Як памерлі матка з татам,
Жыць далей было ім страх:
Засталіся Ўладзік з братам
Ды яшчэ адна сястра.
Зваўся Ўладзяў брат Мікола,
Вольгай звалася сястра.
У гарадзкіх-жа нізшых школах
Яна настаўніца якраз.
І ў гуртках тых комсамольскіх
Волька наша—старшыня.
Так працуе шчыра Волька
Лепш і лепш дзень ада дня.

VII

Дзень за днём,
Дзень за днём,
Мы ўсё дальш
Ў жыцьцё ідзём.
Дзень за днём
Бягуць з запалам.
Сёньня восень нас спаткала
На стракатых, на падлетках.
Перасталі цьвісьці кветкі,
І ліе вось дожджык сьлёзы.
Плачуць, плачуць
Ой, бярозы...

VIII

Ўсё ўжо нудна выглядае
І жудой шумяць кусты.
Навакола рассыпае
Вецер жоўтыя лісты.
Зажурыліся абшары
Верасьнёвым туманом,
А на небе хмары, хмары...
Дождж ліецца так цурком.
Ты ня ўбачыш Сьцёпку ў полі
На мяжы каля кароў,
Ён цяперака у школу
Разам з Ўладзікам пайшоў.
У чацьвертую-ж клясу
Дапусьцілі абаіх,
І яны вячэрнім часам
Вучаць лекцыю ўдваіх.
Як мінецца ўжо зьмярканьне
І запаляць як агні,
Дык бяруцца за чытаньне
Удваіх тады яны.
Вучаць лекцыю упарта,
Каб назаўтра добра знаць.
„Пачакай, браток, ня варта
Гэтак моцна працаваць".
Так адзін другога спыняць...
„Ці ня будзеш, Ўладзік, хвор
Месца гэтае пакінуць
І пайсьці цяпер на двор?"
„Эх, лядача, ты, лядача!
Як ты гэта сьмеў сказаць?
Раз у нас прапала кляча—
Ноччу я пайшоў шукаць.
А то, кажа, я баюся
Выйсьці з хаты ды на двор?"
Тут Уладзік выйсьці мусіў.
Ночка цёмная бяз зор.
Ну, а Сьцёпка наш тымчасам
Ля дзьвярэй у сенцах стаў
Злосна дзікім нейкім басам
Па кашачы запішчаў.
Не спалохаўся-ж Уладзя.
„Ну, Сьцяпанка брат, а што?
Яны ў хату разам садзяць—
Напужаў мяне Хартон!
Трэба зноў за кнігу брацца,
Йдуць за стол тут, як адзін,
І толькі мусяць расставацца,
Калі дзесяць ёсьць гадзін.

IX

Адзін раз неяк зімою
Уладзік Сьцёпку гаварыў:
Мы разлучымся з табою—
Еду ў горад да сястры.

„Дык тады навуку кінеш
У школе нашай хіба ты?
— Не, як прыдзе адпачынак,
Дык паеду я тады.

— Ну, ага, вось гэта дзела,
А то меў-бы ты бяды.
Там пабуду я нядзелю,
Ды прыеду зноў сюды.

Вось прайшоў другі ўжо тыдзень,
Уладзю Сьцёпка як чакаў...
— І калі-ж сюды ён прыдзе?
Цераз тыдзень абацяў.

Раз ваду Сьцяпанка носіць,
Ажно тут разносчык Пліст
Да яго якраз прыносіць
Ад кагосьці сьвежы ліст.

Сьцёпка зразу дагадаўся
Ад каго яму той ліст?



*Да яго як раз прыносіць ад кагосьці сьвежы ліст.*

**Ліст Уладзіка.**

„Добры дзень, Сьцяпан, таварыш!
Будзь гатоў,—як піонэр!
Як жывеш, аб чым ты марыш?
І як вучышся цяпер?

Я ўжо ў горадзе вучуся,
Ды ня надта гэтым рад:
Ехаў я сюды, а чуўся—
Не вярнуцца мне назад.

Ў нас няма тут адпачынку,
Хутка будзе ён,—павер.
Раскажу табе навінку,
Што надумаў я цяпер:

У вас заняткі шчэ' далёка...
Будзеш, братка, шчасьце мець—
Да мяне-ж ня так далёка,—
Дык вазьмі сюды прыедзь.

На цянькі едзь, будзе бліжай
Да мяне прыехаць так.
Да таго-ж вазьмі ты лыжы,
Добра будзе, ўбачыш сам.

У саўхоз вясной вярнуся,
А пакуль—здароў бывай!
Я здаровым астаюся...
Сьцёпка, у горад прыяжджай!

**Уладзік.**

*(Працяг будзе).*



# Ці магчымы палёт на іншыя плянэты?

Вандраваньне ў прасторы між плянэт тэма, якая больш падобна на фантазію, чым на праўду. Выясьніць сабе пастаўленае пытаньне—значыць змагчы правільна разабрацца ў тым, што тут зьяўляецца праўдай і што зьяўляецца толькі марамі.

Перш за ўсё, нельга ніколі ажыцьцявіць думкі аб палёце ў сусьветную прастору на самалёце ці дырыжаблі. Справа ў тым, што ў сусьветнай прасторы няма паветра, няма ніякіх газаў, якія неабходны для таго, каб самалёт ці дырыжабль мог трымацца і ляцець. І падняцца на такіх апаратах вышэй межаў земнае атмасфэры—немагчыма.




Калі стрэліць паземна з пушкі, якая знаходзіцца на высокай гары, дык пры пачатковай хуткасьці менш 8 кл. у сэкунду ядро вытнецца аб земную паверхню. Пры хуткасьці 8 кл. яно будзе круціцца вакол зямлі, абягаючы вакол яе за 1 г. 23 хв. Пры хут. 11 кл. і больш ядро ляціць у бязьмежжа.

Якімі-ж другімі сродкамі ўладае чалавек, каб выскачыць з паветранай прасторы і апынуцца ў бязьмежным акіяне сусьвету? Калісьці францускі раманіст Жуль-Вэрн марыў аб гармаце, якая магла-б закінуць сваё вялізарнае ядро-вагон на месяц. Гэта было 60 гадоў таму назад, калі артылерыя была не нагэтулькі яшчэ магутная, як зараз. Цяперашнія дальнабойныя гарматы і проектуемыя яшчэ больш дальнабойныя пушкі прымушаюць нас задумацца над пытаньнем, ці нельга на самай справе ажыцьцявіць цікавую думку раманістага і паслаць ядро на месяц. Спынімся на гэтым больш дакладна.

Ці можна наогул закінуць з зямлі якую небудзь рэч на месяц? Ніхто яшчэ ня бачыў таго, каб кінутая ў прастору рэч назаўсёды ўплыла ад зямлі: рана ці позна ўсё роўна падае назад. І тым ня менш падобная думка ня мае нічога недарэчнага, нічога супярэчнага законам мэханікі. На самай справе: уявеце, што вы знаходзіцеся ля пушкі, пастаўленай на верхавіне высокай гары, якая страляе ў паземным напрамку. Ядра ляцяць па крывых дарожках, якія набліжаюцца ў бок зямлі, і, урэшце, упіраюцца ў яе. Чым з большаю хуткасьцю выкінута ядро, тым менш крута выгінаецца яго дарожка і тым далей адсоўваецца той пункт, у якім ядро сустракае земную паверхню. Лёгка ўявіць сабе нагэтулькі вялікую хуткасьць, што адпаведная крывізна дарожкі становіцца як раз роўнай з крывой лініяй земнай паверхні: тады ядро нідзе ня будзе спатыкаць зямлі і пачне вечна круціцца вакол нашай плянэты, падобна да штучнаўтворанага маленькага месяца. Мэханіка дае магчымасьць вылічыць, што гэта будзе пры хуткасьці 8 кілёмэтраў у сэкунду.

Што-ж будзе з тым ядром, якому нададзена яшчэ пачатковая хуткасьць? Яно паляціць па выцягнутай замкнутай лініі, уразаючыся далёка ў сусьветную прастору, гледзячы па велічыні пачатковай хуткасьці. Тэорыя даказвае, што пры пачатковай хуткасьці ў 11 кілёмэтраў у сэкунду ядро можа даляцець да месяца, а пры большай хуткасьці—да іншых плянэт, нават да зор.

Сучасныя „зьверхдальныя“ пушкі выкідваюць свае ядры з хуткасьцю $1^3/_4$ км. у першую сэкунду. Распрацаваны ўжо праэкт электрычнай пушкі, якая зможа даваць сваім знарадам пачатковую хуткасьць у 5, нават у 6 км. у сэкунду. Як бачыце, адсюль ужо ня так далёка да той 11-ці км. хуткасьці, пры якой ядры накіроўваюцца ў міжплянэтную прастору.

Ці азначае гэта тое, што пушкі хутка дадуць нам магчымасьць рабіць міжпля-

нэтныя падарожжы? Не, таму што адна справа пасляць у сусьветную прастору мёртвае адро і зусім другая справа пасляць туды жывых людзей. Ніякая жывая істота ўнутры ядра ня можа ўцалець пры выстрале. Накіраваць-жа ядро без пасажыраў—значыць дарэмна абстрэльваць сусьветную прастору: карысьці ад такіх стрэлаў навука ня мела-б ніякай.

Тут маецца і другая важная перашкода. Калі-б нават людзі і ўцалелі у такім ядры, яны і ў такім разе ніколі не маглі-б расказаць нам аб сваім падарожжы: кіраваць рухам свайго ядра яны ня змогуць і таму ніколі ня зьвернуцца зноў на зямлю, каб расказаць аб усім бачаным і перажытым.

І так, каб ажыцьцявіць палёт на іншыя плянэты, неабходна прыдумаць машыну, якая магла-б унесьці жывых пасажыраў з пачатковай хуткасьцю ня менш 11 км. у сэкунду і магла-б, апрача таго, імі кіравацца. Ці магчыма гэта?

Доўгі час падобная задача лічылася неразьвязанай нават і ў розных тэорыях, да таго часу, пакуль адзін сучасны вучоны *К. Л. Цыалкоўскі* не знайшоў спадзейнага шляху, які нёс перамогу над ўсімі перашкодамі, і разам з гэтым ажыцьцяўляў мары аб міжплянэтных вандраваньнях.

Шлях гэты заключаецца ў выкарыстаньні таго пачатку, на якім аснаваны рух ракеты. Бясспрэчна, большасьць вас бачыла, як узьвіваецца запаленая ракета. Але ці ведаеце вы, чаму яна ляціць? Звычайна прычыну яе палёту ўяўляюць сабе зусім ня той, якая сапраўды прымушае ляцець ракеты. Думаюць, што калі ў ракеце запалены порах і з яе выходзіць струмень гарачых газаў, ракета з дапамогай гэтага струменю „адскаквае ад паветры, якая акружае яе“. Калі-б было так, дык у пустой прасторы ракета ляцець не магла-б. На самай жа справе прычына руху ракеты зусім іншая: ракета аштурхоўваецца не ад знадворнае паветры, а ад таго газу, які націскае на яе сьценкі з сярэдзіны. Тут адбываецца тое самае, што і пры стрэле са стрэльбы: газы пораху выкідаюць кулю ў адзін бок і ў той-жа час штурхаюць стрэльбу ў працілеглы бок („аддача“ стрэльбы); акружаючая паветра тут ня грае ніякай ролі. Наадварот, вопыт паказвае, што ў беспаветранай прасторы, дзе ракета не адчувае супраціўленьня ад паветра, а газы выплываюць з яе больш вольна, яна ляціць яшчэ хутчэй, чым у атмасфэры.

Уявеце сабе цяпер вялізарных памераў ракету з каютамі для пасажыраў, дзе людзі будуць магчы кіраваць па свайму жаданьню гэтай ракетай. Такая ракета зможа ляцець бяз шкоды для пасажыраў. Тым ня менш, як паказвае матэматычны разьлік, хуткасьць ракеты можа быць на працягу некалькіх хвілін даведзена паступова ўзрывам да 11 км. у сэкунду, г. зн. да хуткасьці, з якой можна пачаць вандраваньне па сусьвету. Заместа мігавога ўзрыву, які адбываецца ў гармаце ня больш сотай долі сэкунды, мы маем тут гарэньне ў некалькі тысяч разоў больш працяглае, якое ня можа быць шкодным для пасажыраў.

Далейшае ўзрываньне з гэтага часу можа быць спыненым: пры паказанай хуткасьці ракета па інэрцыі панясецца ў сусьветную прастору. І толькі для таго, каб зьмяніць яе шлях, патрэбна будзе зноў аднавіць узрывы. Карацей кажучы,—такая ракета ёсьць той дырыжабль для будучых плянэтных вандраваньняў, аб якіх мы марым.



Проэкт міжплянэтнага дырыжабля-ракеты, распрацаваны нямецкім астраномам проф. Обэртам. Гэта ракета будзе важыць некалькі сот тонаў. Узрыўнымі рэчамі будзе служыць вадарод і сьпірт, якія будуць загарацца ад чыстага тлену (кіслароду).

Гэткая па сутнасьці ідэя, выказаная ў першы раз сучасным вучоным. Падобны праэкт міжплянэтных вандраваньняў, незалежна ад *Цыалкоўскага-* распрацавалі нямецкі астраном прафэсар *Обэрт* і амэрыканскі фізык прафэсар *Гадард.* Больш практычным праэктам зьяўляецца праэкт амэрыканскага вучонага. Ён выканаў цэлы шэраг вопытаў з ракетамі розных сыстэмаў і знайшоў, пры якой

форме ракета атрымлівае найбольшую хуткасьць, і выкарыстоўвае энэргію ўзрыўных рэчаў найбольш выгадным чынам. Гэтыя вопыты давялі, што вялізарная хуткасьць у 11 км. у сэк., з якой павінна пачацца міжплянэтнае падарожжа, зусім можа быць дасягнута, калі ракета даволі вялікая і мае запас гаручых рэчаў у дзесяткі разоў большы, чым усе абалонкі ракеты.



Ракета падлетае да месца (малюнак будучага). На паверхні месяца колёністыя, паляцеўшыя раней з зямлі, пасьпяваюць ужо тут зрабіць „соўнечныя рухавікі"—устаноўкі для выкарыстаньня соўнечных праменьняў, якіх тут мала.

Цяпер *Гадард* зрабіў папярэднія вопыты. Як ён паведамляе ў лісьце, атрыманым аўтарам гэтага артыкулу, плян яго далейшай працы такі: спачатку пробныя палёты ракеты без пасажыраў (але з прыладамі, якія будуць адзначаць усякія зьмены шляхам запісаў) для дасьледваньня крайніх межаў атмасфэры, гэта значыць на вышыні 500-700 км. Пасьля гэтага палёт вялізарнай, таксама не пасажырскай, ракеты на месяц. Гэта ракета, будучы апушчанай на паверхню месяца павінна даць выбух нагэтулькі яскравы, што момант удару можна будзе наглядаць у вялікія земныя тэлескопы. І толькі пасьля гэтага можна будзе адважыцца накіраваць на месяц ракету з пасажырамі.

**Я. Перальман.**

---

# Мёртвыя і жывыя.

### Гарады мерцьвякоў.

Абавязковаю прыналежнасьцю кожнага гораду, вёскі, мястэчка, хоць бы самага маленькага,—зьяўляюцца могілкі.

Селішча жывых і селішча мерцьвякоў зьвязаны заўсёды пэўнаю залежнасьцю: чым шырэйшае першае,—тым большае і другое. Гарады з насельніцтвам у некалькі сот тысяч з усіх бакоў абкружаны могілкамі.

Аднак, над колькасьцю мерцьвякоў, якія намнажаюцца навокал нашых населеных пунктаў, трэба падумаць ня толькі з пункту погляду простае зацікаўленасьці, статыстыкі. Калі-б можна было зьняць з усіх могілак верхні пласт зямлі ў 1½ мэтра таўшчынёю, мы пабачылі-б жудасны малюнак разлажэньня і гніеньня соцень трупаў. Прадукты трупнага разлажэньня, заграseveralзьняючы глебу і вакольнае паветра, могуць пападаць і ў ваду, якая прасочваецца праз глебу, а адтуль у бліжэйшыя калодзежы і вадазборы, з якіх бяруць ваду для піцьця. Бактэрыі з трупаў людзей, якія памерлі ад заразных хваробаў, таксама могуць прынесьці

хваробу жыхаром, якія жывуць па суседзтву з могілкамі.

Але побач з гігіенічнымі меркаваньнямі, могілкі нявыгодныя і ў эканомічных адносінах. Яны займаюць вялікую колькасьць зямлі, якую можна было-б скарыстаць для зямлякарыстаньня, у гарадох—для забудовы і зьмяншэньня кватэрнай цеснаты. Закопваньне ў зямлю—далёка не адзіны спосаб пахаваньня. У некаторых вандроўных народаў старажытнасьці існаваў звычай проста пакідаць памёршага ў яго шалашы, а самім уцякаць на другое месца. Манголы лічаць, што лепш за ўсё як найхутчэй зьнішчыць труп; для гэтае мэты яны выносяць нябожчыка ў стэп, дзе яго зьядаюць дзікія сабакі. Агняпаклоньнікі-Парсы, якія жывуць у Індыі і Пэрсыі, аддаюць цела сваіх мерцьвякоў дзікім птушкам, дзеля чаго трупы звальваюцца на дно асобнай круглай „башні“. Такія „башні“ завуцца „башнямі маўчаньня“, ня маюць страхі, так што птушкі могуць залятаць ў іх. Многія народы імкнуцца дасягнуць адваротнага—гэта ёсьць захаваць цела нябожчыка, як можна надаўжэй. Для гэтага трупы высушваюць, пракопчваюць над полымем агню ці бальзаруюць, як гэта рабілі старажытныя эгіпцяне.

Сярод дзікуноў Аўстраліі і Паўночнае Амэрыкі існаваў звычай зьмяшчаць нябожчыкаў на дрэвах, ці на асобных памостах, якія будаваліся на ўкопаных у зямлю слупох. Найменш гігіенічны спосаб пахаваньня—гэта кіданьне трупаў у рэчкі, якія лёгка могуць распаўсюджваць заразу сярод прыбярэжнага насельніцтва. Гэты спосаб яшчэ да гэтага часу часткова практыкуецца ў Індыі, дзе асабліва добрымі для такога пахаваньня лічацца воды „сьвяшчэннай“ рэчкі Ганга.

Рознастайнасьць пахавальных звычаяў залежыць ад шмат якіх умоў; вялікае значэньне маюць рэлігійныя вераваньні. У старажытнасьці даволі распаўсюжаным звычаем было зьнішчэньне трупаў пры дапамозе агню.

Гадоў 50 таму пытаньнем аб найлепшым спосабе пахаваньня занялася навука.

Першыя практычныя крокі да зьдзейсьненьня крэмацыі былі зроблены пасьля вынаходкі спэцыяльных крэмацыйных печаў. Старажытныя вогнішчы былі, вядома, няпрыймальнымі для новых часоў: папершае, яны не давалі поўнага спальваньня; падругое, попел, які застаецца ад трупа, зьмешваецца з попелам дрэва; затым, вогнішчы патрабавалі вельмі многа дроў; і, нарэшце, спальваньне на вогнішчы зьняважала пачуцьці сваякоў—гледачоў мерцьвяка. Усе гэтыя непажаданыя моманты зусім зьнішчаюцца пры спальваньні трупа ў асобай печы.

Крэматоры—гэта будынак, дзе робіцца спальваньне трупаў. Будуецца звычайна наступным чынам.

З самага нізу знаходзіцца печ, у якой гарыць каменны вугаль ці кокс; пры спальваньні гэтага апалу вылучаюцца гаручыя газы, якія зьмешваюцца ў асаблівых каморах з звычайным паветрам. Мешаніна газаў і паветра, будучы запаленаю, дае вельмі высокую тэмпэратуру. Праходзячы ўнутры агністойкіх сьценак тае печы, дзе зьмяшчаецц труна, гарачыя газы напальваюць сьценкі печы, унутры, якой ствараецца тэмпэратура 1000-1200 градусаў па Ц. Пры такой тэмпэратуры труна раптам распадаецца, а цэла нябожчыка пачынае паступова абугліваецца і ператварацца ў попел. Цяжэй усяго спаліць косьці, але цераз $1^1/_2$-2 гадзіны і яны ператвараюцца ў попел. Праз сітца попел (звычайна яго бывае каля 2-х кілё) сыплецца ў ніжнюю частку печы, адкуль яго вымаюць і ссыпаюць ў гліняную ці мэталёвую урну. Урны з попелам аддаюцца сваяком спаленага ці хаваюцца пры крэматорыі. Памяшканьне, дзе захоўваюцца урны, называецца колумбарыем. Акрамя печаў і колумбарыяў, на верхнім паверсе крэматорыя будуецца яшчэ вялікая заля, дзе бывае разьвітаньне з нябожчыкам, і робяцца тыя ці іншыя пахавальныя цэрамоніі. Пасярэдзіне гэтае залі знаходзіцца рухомы памост для труны. Калі цэрамоніі скончаны, труна, дзякуючы пад‘ёмнай машыне, якая знаходзіцца пад памостам, паступова апускаецца ў ніжні паверх і на асаблівых санчках укочваецца ў напаленую печ.

Першы крэматоры быў пабудован у 1876 г. ў Мілане—Італіі; другі—праз два гады ў Нямеччыне. З таго часу лік крэматорыяў няўхільна расьце.

У царскай Расіі ня было ніводнага крэматорыя. Спроба ўвесьці ў нас спальваньне трупаў сустрэла непераможную перашкоду ўлады, асабліва царкоўнае, якая аб'явіла крэмацыю бязбожнаю справаю. Сапраўды-ж папамі кіравала толькі баязьлівасьць згубіць частку сваіх прыбыткаў.

Перашкоды да пабудовы крэматорыяў згінулі толькі цяпер. Зараз ў Маскве закончваецца пабудова першага ў нашым Саюзе крэматорыя. Пад яго скарыстана недабудова цэркаў Нова-Данскіх могілак. Крэматоры абсталяваны двума печамі, якія выпісаны з Нямеччыны. Гэтыя печы змогуць кожны дзень спальваць 18 трупаў, прычым спальваньне кожнага трупа будзе каштаваць каля 20 рублёў. Пры крэматорыю будуць пабудованы 2 колумбарыі, разьлічаныя на разьмяшчэньне 600 урн у кожным. У цэнтральнай залі акрамя ліфта, які падае труну ў печ, будзе знаходзіцца памост для оркестра і месца для сваякоў. У падвальным паверсе разьмяшчаецца службовая частка крэматорыя.

Маскоўскі крэматоры зьявіцца адным з прыкладаў барацьбы за новы, культурны быт, дзе замест цемнаты і рэлігійных разважаньняў галоўнае месца зоймуць навука і веды, і дзе нябожчыкі ня будуць мяшаць жывым.

## Падводная птушка.

Ці чулі вы калі-небудзь аб птушцы, якая „лётае“ над вадой, ганяецца за вадзянымі жучкамі, маленькімі рыбкамі, бегае па дне ракі, капаецца ў пяску і глеі?

Аднак-жа такая птушка існуе. І жыве недалёка—у сярэдняй Эўропе. У розных мясцох завуць яе паразнаму: вадзяны верабей, вадзяны шпак, вадзяны дрозд, аляпка. І па выгляду яна нічым не адрозьніваецца ад звычайных птушак. Нават лапкі яе ня маюць ніякай перапонкі, як гэта бывае ў іншых вадзяных птушак: гусёй, качак, лебядзей і інш.

Ноч праводзіць яна на беразе. Прачнуўшыся, папяе, нібы вітае сонца, а потым у ваду. Цікава глядзець, як спрытна яна там носіцца, ня горш ад яе таварышоў у паветры. Здалёка заўважыць здабычу і адразу нагоніць яе. Але ўвесь час, без перапынку, яна ня можа быць пад вадой. Праз кожныя поўхвіліны яна павінна высоўваць нос з-пад вады, каб набраць сьвежага паветра. Але-ж затое яна такім чынам праводзіць у вадзе ўвесь дзень, зранку да вечара. Вечарам выходзіць, ізноў папяе і засьне.

Цікава, што яна таксама жыве і ўзімку. Таксама праводзіць ноч на беразе, таксама плавае ў ледзяной вадзе, пад лёдам. Дзеля гэтага трэба толькі, каб ручай у якім-небудзь месцы не замярзаў. А такія месцы бываюць сярод узвышшаў, дзе вада стромка ляціць сярод каменьняў. Вось чаму яна жыве толькі ў горных мясцох,—толькі таму няма яе ў нас.



Гняздо яна робіць дзе-небудзь пад мостам, млыном, у шчыліне тырчачага з-пад вады каменя; робіць таксама, як і ўсе іншыя птушкі. Выгадаваўшы дзяцей, яна не дазваляе ім жыць побач і ўпарта гоніць прэч. Наогул, яна вельмі трымаецца аднаго месца і ані ў якім разе не пераменіць яго, нават калі пагражае небясьпека.

Я. М.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Будзем знаёміцца, як працуюць нашы суседнія атрады

*(Валакаламскі павет, вёска Яраполец).*

Пачаткам сельска-гаспадарчай працы была вясна 1926 г., калі наш Ярапольскі атрад з'арганізаваў піонэрскі агарод на невялікай сялібе, дадзенай сельсаветам. Пад кіраўніцтвам агранома т. Тузава, мы ўзяліся за ачышчэньне, пасадку і догляд за расьлінамі. Работа разьмеркавалася па зьвеньням. Увосень 1926 г. ў „Дзень ураджаю" мы выступілі на выстаўцы і атрымалі адну з першых прэмій—10 р. Увесь ураджай быў своячасова сабраны, прадукты праданы, а грошы пайшлі на патрэбы піонэратраду.

У доўгія зімовыя вечары мы па зьвеньням падрыхтоўваліся да летняй працы, праводзілі гутаркі аб доглядзе скаціны, аб доглядзе за курамі і іх карысьці ў сельскай гаспадарцы, аб пчалярстве і г. д. Гутаркі замацоўваліся заданьнямі для асобных піонэраў (пабудова ўзораў дацкай кармушкі, вульлёў і с.-г. прыладаў).

Акрамя гэтага, паасобныя піонэры ў сваіх гаспадарках дапамагалі дарослым. Напрыклад, Сіроткін А. зрабіў дацкую кармушку, а ўзімку даглядаў хатнюю жывёлу. Глінка П. гэтак сама зрабіў кармушку, а ў вольны час ад вучобы дапамагаў хатнім карміць жывёлу і г. д.

Піонэрка Харытонава зімой даглядала пеўня пароды „Мэйціс", якога карміла так, як раіць гэта рабіць навука аб хатніх птушках. Вясною г. г. наш атрад зноў узяўся за працу. Сельсавет даў зямлі (праўда, ужо ў другім месцы), пляцу 138 квадратовых сажняў, і падрыхтоўчая праца пайшла ва ўсю.

На аб'яднаным зборы атрадаў была праведзена гутарка т. Турава аб арганізацыі працы на агародзе. Потым, як толькі пачаў раставаць сьнег, піонэры сабралі каля 230 пудоў гною з плошчы і вуліцы. Было таксама сабрана каля 15 пудоў попелу са школ і сялянскіх хат.

Першая глыбокая заворка была зроблена трактарам Яраполецкага камітэту ўзаемадапамогі. Потым уся апошняя цяжкая праца (заворка гною, баранаваньне, абсыпка градак і г. д.) была прароблена піонэрамі з дапамогаю паваdыроў. Зярняты купілі на сродкі, атрыманыя з прэміі на сельска-гаспадарчай выстаўцы.

Пасеў нашага агарода разьмяркоўваўся так:

1) Чатыры сарты агуркоў (белагубскія, перасілін, мурамскія, вязьнікоўскія) займаюць плошчу ў 41,25 квадратовых сажняў.

2) Бульба—25 квадратовых саж.

3) Тры сарты буракоў (кармовыя, сталовыя і ешніцкія) плошча—22 квадратовых саж.

4) Пад рознымі культурамі (рэдзька, маркоўка, цыбуля, мак, рэпа і г. д.) 31,25 кв. саж.

5) Пад сартавой капустай—18,5 кв. саж. Капуста і бушма былі пасеяны 17 чэрвеня 1927 г., а ўсё іншае—30 і 31 мая.

Зараз назіраньне за рознымі часткамі агароду даручана зьвеньням.

Агарод апрацоўваюць абодва Яраполіцкіх атрады.

**Горкаў і Сідараў.**





# Жылі ў лягерах.

*(Парыцкі раён, Бабруйскай акругі).*

У лягер выяжджалі не асобныя атрады, а піонэры ўсіх атрадаў раёну. У вызначаны дзень заявіліся 2-3 піонэры з кожнага атраду. Ехаць трэба было параходам у дачнае месца нашага раёну м. Шацілкі.

Наступіў вечар. Пачуўся гудок парахода, музыка зацягнула піонэрскі марш і пад грукат піонэрскіх місак, кубкаў, лыжак і інш. лягерных інструмантаў, пад звон вясёлых песень мы ад'яжджалі ад берагу.

### Вясёлае жыцьцё.

Хутка азнаёміліся між сабой незнаёмыя. Пачаліся вопыты, гутаркі, сьмех. Параход раптам стаў, піонэры засыпалі пытаньнямі матросаў і капітана: Што гэта такое? Адказ быў, што будуць нагружаць апал. Жыва піонэрская братва была на беразе і цягала ўжо дровы з жартамі і рознымі заўвагамі адзін другому...

Вось параход прываліў к берагу. Тут таксама загрукацелі пустыя міскі і лыжкі, а сэрца так радасна б'ецца ў кожнага піонэра, ўспамінаючы аб вясёлых провадах, якія ім наладзіла ўся організацыя.

Ноч прайшла весела. Нават сон ня мог перашкодзіць добраму настрою.

### Галадаем...

Раніцай кожны піонэр абчысьціў сваю торбу ад рэштак хлеба, масла, яек. Перакусіўшы, усе прыняліся за работу, хто ладзіць нары, хто тупае ля катлоў і г. д. Кожны працуе, а есьці няма чаго. Прадуктаў поўнасьцю не хапала. Чакаць прыходзілася ад сьнеданьня да абеду, ад абеду да вячэры. Ды якія там абеды?..

Пасьля трохі разжыліся: дасталі кухарку, прадуктаў, сталі варыць абеды, вячэру. Рыхтуемся да адчыненьня лягераў, прыцягнулі з лесу вялікае бервяно, паставілі яго і зрабілі мачту-сьцяг.

19-га жніўня адбылося адчыненьне.

Закіпела работа. Дружная сям'я з 30 піонэраў пачала абсталёўваць сваю гаспадарку... Зрабілі круг для правядзеньня гутарак у кастры, зрабілі паліцы для кніг і інш. Жыцьцё наладжваецца.

### У вайсковых.

Памятнай для піонэраў надоўга застанецца каманда ОВО Шацілаўскага маста. Нашы наведваньні к ахраньнікам, іх да нас, сумесныя катаньні на лодках, гутаркі гэроя грамадзкай вайны т. Аўчыньнікава, сумесны абед на мосьце,— усё гэта шмат ажывіла нашу працу, унесла рознастайнасьць, дало не малую карысьць для піонэраў.

**Наша грамадзкая работа.**

Узяліся мы за абсталяваньне студні, ў м. Шацілках. Адразу сялянства сьмялася. Але-ж наша работа вельмі шпарка пайшла наперад, і студня неўзабаве была абсталявана. Ад тых, хто сьмяяўся, мы атрымалі яшчэ падзяку.

Нашы сумесныя гутаркі ля кастра, вечары, паходы, экскурсіі на станцыю зблізілі нас з шацілаўскімі піонэрамі і грамадзкімі організацыямі.

Мы за час лягераў заваявалі аўтарытэт у насельніцтва. Аб гэтым сьведчыць заява машыніста вадакачкі Кахаsucceeded ноўскага, які пасьля таго, як мы пабылі на экскурсіі на вадакачцы, напісаў заяву аб тым, каб запісалі яго сына ў піонэры. Вось што ён піша: „*Чувствую неопределимую симпатию к тов. пионерам в их новой жизни и развитии, а посему прошу принять моего сына в пионэры*“.

Так мы пражылі 17 дзён. Увесь час у радасьці і вясёласьці. Некаторыя прыбавіліся па 4 кілёграмы, некаторыя па 2.

Ня гледзячы на тое, што лягеры мы праводзім першы раз, мы можам упэўнена сказаць, што лягеры сябе поўнасьцю апраўдалі.

**Марголін Л. Б.**

(Парычы)

---

# Як жывецца піонэрам Тураўшчыны.

Умовы працы піонэр. організацыі Тураўшчыны вельмі цяжкія. Прыгранічнасьць раёну, чуткі аб вайне, — усё гэта часта прымушае несьвядомых сялян ня пускаць сваіх дзяцей у піонэры. Дзеці ходзяць на сход атраду, працуюць разам з піонэрамі, а самі ўступаць у атрад баяцца. Ва ўсім раёне, які налічвае 67 вёсак, маюцца 4 піонэр. атрады, якія ахопліваюць 153 чал. дзяцей, што ў адносінах да агульнага ліку дзяцей раёну складае вельмі нязначную колькасьць.

Па нацыянальнаму і социяльнаму складу організацыя дзеліцца так: беларусаў — 50 чалавек, яўрэяў — 93 чал., расійцаў—10 чал. Дзяцей рабочых—8 ч., дзяцей сялян —45 ч., дзяцей саматужнікаў—73 ч., дзяцей служачых —15 чалавек, дзяцей інш.—10 чал. Адсюль відаць, што організацыя ўпераважнасьці—сялянска-саматужніцкая. Комсамольскі асяродак організацыі складае 15 проц.



Піонэры чытаюць „Піонэрскую Праўду“, „Беларускі Піонэр“, некаторыя старэйшыя рыхтуюцца для ўступленьня ў комсамол. Амаль усе піонэры вучацца, прымаюць актыўны ўдзел у працы камісій школ і органах самакіраваньня.

З беспарт. дзяцьмі піонэр-атрады мястэчка Турава зрабілі экскурсію ў Мозыр і Петрыкаў.

Адна бяда, няма піонэр-клюбу і няма дзе займацца фізкультурай.

**Піонэр.**

# Больш адказнасьці за працу.

(*Вёска Бадзяжы, Старыцкага с. с., Мен. акр.*).

У нашай вёсцы працаваў атрад Ю. П. У атрадзе было 30 піонэраў. Праца да гэтага часу йшла шпаркім крокам. Выпускалася насьценная газэта, і піонэры прымалі шчыры ўдзел у грамадзкай працы. У гэтым годзе нічога падобнага няма, бо няма і самага атраду. Дзеці пачалі курыць, лазіць па садох і агародах, дрэнна трымаюць сябе на вуліцы, дома і г. д.

Усё гэта залежыць ад комсамольскай ячэйкі, якая ёсьць у гэтай вёсцы. Комсамольцы, высунутыя на працу, ня хочуць працаваць, а едуць вучыцца на Рабфак, курсы і г. д.

Не прайшло і два месяцы, як піонэры пайшлі ў другі бок.

Прыехаўшаму старшыні Райбюро ЮП адказалі, што піонэра і са сьвечкай ня знойдзеш. Час бяжыць, а працаваць так і няма каму. Дзяцей і цяпер можна сабраць, але для гэтага трэба папрацаваць усёй ячэйцы комсамола. Асабліва бюро мала зацікаўлена і ня хоча несьці адказнасьці за гэтую працу.

**Комсамолец.**

в. Бадзяжы, Старыцкага с. с., Грэскага р., Мен. акр.

# Піонэры за працай.

(*Дзеткалёнія „Малады Араты"*).

Піонэратрад, які працуе ў дзетдоме, у летні час зьвярнуў увагу на грамадзкую працу ў вёсцы. Першы крок такой карыснай працы сярод насельніцтва выразіўся ва ўдзеле піонэраў у Нардоме і хаце-чытальні. Выпушчана насьценгазэта хаты-чытальні, яе тэхнічная апрацоўка выконвалася піонэрамі. Праведзена генэральная ўборка клюбу, як у сярэдзіне, так і знадворку. Добрыя адносіны да дзяцей вёскі прыблізілі апошніх да піонэраў. Піонэры з дзяцьмі вёскі ўстрайвалі гульні, наладзілі экскурсію ў калёнію. У далейшым узяты напрамак на ўцягненьне неорганізаваных дзяцей у грамадзкую працу. Разам з піонэрамі ў супольнай кузьні будуць выхоўвацца грамадзка-карысныя працаўнікі вёскі.

**Піонэр 10-га атраду.**

Койданаўскі р., вёска Станькава.



Большасьць барысаўскіх піонэраў у гэтым годзе змагла наладзіць экскурсіі у іншыя гарады з мэтай азнаямленьня з умовамі працы іншых піонэр. організацый, а таксама пацікавіцца жыцьцём заводаў і фабрык.

На здымку—група барысаўскіх піонэраўэкскурсантаў разам з прадстаўнікамі рэдакцый („Б.П." „Ч. З." і „Ю. Э."

# З ЖЫЦЬЦЯ ЮНЫХ ЭСПЭРАНТЫСТЫХ.

## Организавалі ячэйку эспэранто.

У Менску організавалася ячэйка школьнікаў-эспэрантыстых. Ячэйка распачала ўжо весьці перапіску з усімі дзіцячымі організацыямі і школьнікамі земнае кулі. Перапіска вядзецца як паасобнымі сябрамі, так і ўсёй ячэйкай. Шляхам такой сувязі мы дакладна знаёмімся з жыцьцём замежных дзяцей. Ячэйка атрымала ўжо шмат часопісяй, картак і лістоў.

У ячэйку прымаюць усіх школьнікаў і піонэраў (запісь у клюбе К. Маркса).

## Як увялі эспэранто вучні гораду Чыты.

(*Дальні Ўсход*).

Чытаўскі эспэрантысты, праяжджаючы праз горад Менск, пабыў у 4-й школе, у якой зрабіў маленькі даклад аб тым, як яны ўвялі ў сябе ў школе эспэранто.

Адзін вучань 5-ае клясы, вывучыўшы эспэранто, пачаў знаёміць з ім сваіх таварышоў. Пазнаёміўшыся з гісторыяй мовы і навучыўшы крыху гаварыць іх, распачаў спрэчкі з настаўнікамі, якія былі супроць эспэранто. Атрымаўшы перамогу ў спрэчках і згуртаваўшыся, дзеці школы выпусьцілі адозву ў ліку 1.000 экзэмпляраў да ўсіх вучняў г. Чыты.

У адозьве яны даказвалі карысьць эспэранто. Настаўнікам у адозьве напаміналіся рэзолюцыі кангрэсу эспэрантыстых аб прыняцьці языка эспэранто. Разам з гэтым вучні па школах расклейвалі лёзунгі, агітуючы за ўвядзеньне мовы эспэранто.

Настаўнікі, убачыўшы такое натхненьне дзяцей, ня сталі больш ім супярэчыць. Загадчыкі школ дазволілі зорганізаваць гурткі і далі грошы на аплату кіраўнікоў.

На заняткі гуртка прыходзіла па 200 чалавек. Было цесна і цяжка весьці працу, але цяжкія ўмовы не перашкодзілі вывучэньню эспэранто. У маленькім горадзе каля 600 дзяцей пачалі гаварыць на эспэранто.

Для лепшай організацыі працы па вывучэньню эспэранто дзеці зорганізавалі Губком.

Цяпер вучні працуюць для вывучэньня эспэранто ў школах, як раней над вывучэньнем францускай, нямецкай і іншых моваў.

**Мятніцкі.**

## Хто жадае весьці перапіску.

**Рэдакцыя часопісі пролетарскіх дзяцей Фінляндыі „ПУНАЛІПУ“ жадае весьці перапіску з усімі піонэрамі і вучнямі Беларусі. Усе лісты часопісь „Пуналіпу“ будзе перасылаць, па жаданьню прыслаўшых, у школы ці організацыям пролетарскіх дзяцей Фінляндыі, а таксама некаторыя і зьмяшчаць у часопісі.**

**Перасылка лістоў будзе весьціся праз нашу часопісь „Беларускі Піонэр“, якая бярэ на сябе абавязак перакладу лістоў на мову эспэранто.**

**Кошт перасылкі ліста—14 кап., паш. карткі—7 к. Гэтую суму трэба высылаць рэдакцыі маркамі разам з лістом на наш адрас.**






# ГУТАРКІ ЧЫРВОНАГА КАМАНДЗІРА.

## Вучыся добра страляць.

Стралковая справа ня толькі самая патрэбная, але, напэўна, і самая цікавая з вайсковых заняткаў. Дзеці любяць пастраляць: адзін жарыць з рагаткі, другі— з лука, трэці шпокае з пугача, чацьверты майструе які-небудзь нязвычайны самастрэл, руляй для якога служыць гільза звычайнага патрона, а порахам— галоўкі запалак.

Такая ваенізацыя адбываецца неорганізаванымі, бяз усякага парадку і ка-



рысьці для дзяцей, а іншы раз мае і шэраг няпрыемнасьцяй.

Організаванае вывучэньне стралковае справы зьнішчыць усе гэтыя перашкоды і зробіць стральбу ня толькі прыемнай, але і карыснай справай. Вывучаючы стралковай справе піонэраў, зусім ня маецца на ўвазе зрабіць з іх толькі стралкоў, якіх можна выкарыстаць у часе вайны, як байцоў. Зразумела, і ў часе вайны той, хто вывучыў стралковую справу, будзе сьвядомым і актыўным байцом. У таго, хто добра страляе, заўсёды маецца больш пераваг перад тым, хто зброі і стралковай справы не вывучаў. Першы заўсёды пераможа ў бойцы апошняга. Але ня трэба забывацца, што стралковая справа бывае яшчэ цікавей, ёю цікавяцца ва ўсіх краінах сьвета.

Стралковы спорт больш даступны, чым іншыя віды спорта. Ім можна займацца і ўдзень і ўночы, ва ўсякі час года, у памяшканьні і на дварэ; ён даступны, як для дужага, так і для слабага, для мужчыны і для жанчыны. Страляць можна на розныя адлегласьці,— ад 10-15 мэтраў з так званага дробнакалібэрнай стрэльбы, шротамі ці кулькай у хатнім ціры [1]), і да аднаго кілёмэтру, куляй з вайсковай вінтоўкі, на знарочыста абсталяваным для страляньня полі.

Стралковы спорт разьвівае фізычна, закаляе чалавека, выпрацоўвае вытрымку, волю, цьвёрдасьць рукі. Заняткі стральбою павялічваюць зрокавасьць і дапамагаюць на вока вызначаць адлегласьць. Апрача таго, уменьне ўладаць зброяй служыць добрым сродкам пры самаабароне ў выпадку нападаў.

Як-жа навучыцца добра страляць? Перш за ўсё неабходна вывучыць тую стрэльбу, з якой будзеш страляць. Стрэльба—машына і патрабуе ўважлівага і асьцярожнага абыходу з сабой. Вывучы ўсе якасьці стрэльбы, яе асаблівасьці і тады ты будзеш сьвядома страляць і сьвядома папраўляць памылкі пры пападаньні. Гразь і іржа ў стрэльбе добрага пападаньня не дадуць, трэба як мага чысьцейшай трымаць зброю, і яна больш часу і лепш будзе служыць табе.

З першых-жа практыкаваньняў па наводцы і прыцэлу прывучы сябе цьвёрда



---

[1]) Цір—месца для стральбы.

трымаць стрэльбу ў руках і ў плячы. Не дапускай, каб стрэльба дрыжала, ці маталася ў руках у часе выстралаў. Трэба наводзіць і спускаць курок спакойна, не сьпяшаючыся і плаўна. Як правіла, неабходна на невялікіх адлегласьцях наводзіць прыцэл у ніжні край цэлі, „пад цэль“. У часе стральбы добра агледзь стрэльбу, паглядзі ў канал ствала, на затвор, агледзь патрон. Калі ўбачыш няспраўнасьць, лепш не страляй, ня псуй дарэмна пораху. Усялякая стрэльба мае свае асаблівасьці, калі іх ня ведаеш—спачатку дакладна вывучы іх. Для гэтага стрэльбу спачатку трэба прыстраляць або з нарочыстага станка, альбо няхай гэта зробіць вопытны стралок. Калі будзеш дакладна ведаць асаблівасьці сваёй стрэльбы, дык пры цаляньні будзеш з гэтым лічыцца, мець на ўвазе. Напрыклад, стрэльба мае асаблівасьць біць уніз, значыць пры прыцэльваньні неабходна заўсёды некалькі прыцэл падымаць. Трэба пры страляньні ўлічваць і пагоду, асабліва вецер, які іншы раз можа аднесьці кулю ў бок. За вялікімі дасягненьнямі адразу не ганяйся. Помні, што „чым менш, тым лепш“.

Спачатку добра падрыхтуй сябе ведамі ў стралковай справе і папярэднімі практыкаваньнямі, а пасьля распачынай ужо настаяшчую стральбу.

Прывучы сябе як можна асьцярожней абыходзіцца са стрэльбай. Памятай, што нават у руках вопытных людзей ад неасьцярожнасьці бываюць няшчасныя выпадкі. Заўсёды трымай стрэльбу, асабліва, калі заражаеш, ці разражаеш, руляй уверх або ўніз. Кожны чалавек з нармальным зрокам можа стаць добрым стралком. Разьвівай вока, умацоўвай сілу рук, ведай добра сваю стрэльбу—дык ты будзеш добрым стралком.



**Кляшторны.**

# Плывеце, журавы...

Плывеце, журавы,
За горы, за бары,
Плывеце ўдаль, плывеце!..
Пра нашу Беларусь,
Пра вольныя палі
Сусьвету раскажэце.
І там,
Далёка там,
Напомніце панам
Рабінавыя хвалі...
У прадсьвітальны час
Скажэце, як у нас
Кастрычнік здабывалі...
Імклівіць час ўпярод...
Ужо дзесяты год
З тае пары за намі,
Як разьвітаўся тут
Наш беларускі люд
З нікчэмнымі панамі.
Скажэце, птахі, там
Пакрыўджаным дзяцям
На тых, ня нашых гонях,
Як мы гарэць і жыць,
Змагацца і любіць
Тут вучымся сягоньня.
Плывеце, журавы,
За горы, за бары,
У сінявыя далі;
І там,
Далёка там,
Напомніце панам
Рабінавыя хвалі.




Далінскі.

# ПІОНЭРУ АБ КАСТРЫЧНІКУ.

### Зброя і пушкі ў руках рабочае клясы.

Доўгія цягучыя гады трымалі ў ланцугох рабочую клясу. Тыя, хто называў сябе „соцыялістымі“ (меншавікі і эс-эры), укаранялі рабочай клясе думку аб тым, што без дапамогі „адукаваных“ людзей яна адна ніколі ня вызваліцца ад цяжкага над ёй прыгону, не разарве сваіх ланцугоў. І толькі адны бальшавікі (камуністыя) выхоўвалі ў рабочай клясе веру ў сябе, у свае сілы і звалі на барацьбу, ня верачы ў магчымасьць мірнага захопу ўлады. Бальшавікі звалі да цеснага аб‘яднаньня рабочых і салдат, патрабавалі організацыі чырвонай гвардыі на фабрыках і заводах, узбраеньня рабочых і разброеньня буржуазіі.

### Першыя бойкі пролетарыяту.

Спачатку з першых гадоў нашага стагодзьдзя рэволюцыйны рух Расіі не заціхаў. Царскі лад, які складзен панамі і буйнымі капіталістымі для таго, каб замацоўвацца, павінен быў усё больш і больш пашыраць вытворчасьць, г. зн. будаваць фабрыкі і заводы. А дзе фабрыкі і заводы, там рабочая кляса — вораг буржуазіі. Павялічваючы свае прыбыткі і барышы, расійскія паны і фабрыканты самі рабілі для сябе свайго магільшчыка—пролетарыят. Пакуль уся Расія была сялянскай, пакуль штучна затрымліваўся рост фабрык і заводаў, улада цара Мікалая II зьверскімі мерамі, расстрэламі і катаваньнямі падаўляла сялянскія „бунты“. Але калі, акрамя селяніна, у 1905 г. пасьля няўдалай расійска-японскай вайны выступіла рабочая кляса на барацьбу з царызмам, самаўладзтва захісталася. Мора крыві і сьлёз пралілося на асфальтах вуліц Масквы, Піцера, Кіева, Адэсы, Баку і Тыфліса. Рабочыя біліся ўпарта, але царская ўлада прыдушыла першую рускую рэволюцыю, змагла сілай угаманіць рабочага і селяніна. І калі, сьцякаючы крывёю, уміраў на барыкадах Масквы рабочы, сялянства не пайшло на дапамогу, селянін у салдацкай шынэлі паслухаў генэралаў і міністраў і перамог рэволюцыю 1905 г.

### Ад разбурэньня першай рэволюцыі да пачатку вайны.

Пачаліся цяжкія дні для рабочае клясы. Буржуазія распраўлялася з рабочымі ва ўсю. Былі разагнаны ўсе організацыі рабочае клясы. Першы праваобраз цяперашняй улады рабочых і сялян—у той час Саветы—былі разбураны, правадыры рабочае клясы арыштаваны і марнаваліся ў ссылцы і ў турмах.

Рабочая кляса была разбурана. Але Ў. І. Ленін і партыя бальшавікоў зьбіралі асобных аднадумцаў, моцна зьвязваліся з рабочай клясай. Вышукваньне, турма, высылка і шыбеніца—пагражалі тым, хто хацеў скінуць царскую ўладу, але ўсё гэта не зламала веры ў тое, што старое ўсё гніе, распаўзаецца і разваль-

ваецца. Многія быўшыя „сябры“ адышлі ад рабочае клясы; цяжкая, душная цемра павісла над Расіяй у той час. Але барацьба не памірала і паступова зноў нарасталі сілы рабочае клясы.

На далёкіх Ленскіх капальнях прагучэлі залпы наймітаў капітала—ротмістра Цярэшчанка і др. Гэтымі залпамі былі выведзены з строю 500 рабочых ранэнымі і забітымі. Гэта расправа ўскалыхнула рабочую клясу. Разьбіты пролетарыят зноў стыхійна падняўся, забастоўкі пайшлі па ўсёй Расіі. Хутка вышла і першая рабочая газэта—„Правда“,—22-га красавіка 1912 г.

### Вайна.

Вайна 1914 г. выявіла ўсю гніласьць царызма. Для організацыі перамогі над „ворагам“ было мабілізавана каля 15 мільёнаў рабочых і сялян. 15 мільёнаў сваіх ворагаў узброіў расійскі царызм, і, покуль ён мог зацямняць сьвядомасьць працоўных, пушкі і зброя страляюць проціў „немцаў“ і „ўнутранога“ ворага. Але ўсё ясьней станавілася нікчэмнасьць царызму, і, як ранены зьвер, кідаўся дэспотызм*), то нагайкай, то шляхам невялікіх дэкляраваньняў „успакайваючы“ народ. І тут, у справе выясьненьня народам сапраўднага сэнсу вайны, многа зрабілі бальшавікі і іх правадыры: Ленін, Зіноўеў і Каменеў.

Ужо тады У. І. Ленін намеціў шлях барацьбы працоўных у час вайны і пасьля яе: Саветы, мір, зямля і фабрыкі—працоўным.

### Рэволюцыя адбылася... Але рабочая кляса абманута.

23-24 лютага пачаліся забастоўкі і дэмонстрацыі ў Петраградзе. Пасьля першых стычак з паліцыяй войска перайшло на бок народу. Засады гарадавых кулямётчыкаў, якія стралялі з стрэх, у паўстаўшы народ, былі абяззброены альбо расстрэляны. Невялікая колькасьць верных цару вайсковых частак была зломлена. Першага сакавіка рэволюцыя атрымала перамогу і ў Маскве. 2-га сакавіка Мікалай II і апошні, у вагоне чыгункі, падпісаў адмаўленьне ад прастолу. Самаўладзтва было задушана паўстаўшым народам.

*) Самаўладзтва.

Рэволюцыя перамагла, але, перамогшы, яна выявіла розныя інтарэсы розных клясаў. Буржуазія і паны лічылі, што рэволюцыя, перамогшы царызм, зрабіла сваю справу. А цяпер можна ваяваць далей з немцамі, г. зн. зноў пасылаць рабочых забіваць такіх-жа рабочых з-за карысьці буржуазіі.

Буржуазія была больш організавана, чым рабочая кляса. Рабочая кляса была сьціснута ў абцугі ў час вайны, была атручана духоўным ядам здрадніцтва (згода з буржуазіяй), бо тады панаваў меншавізм і эсэрства. Пасьля лютаўскай рэволюцыі да ўлады прыходзіць буржуазна-панская ўлада.

Хто былі гэтыя людзі „новае ўлады“?— А. І. Гучкоў, прадстаўнік маскоўскіх купцоў, І. Н. Мілюкоў—абаронца міжнароднага грабества, адданы сябра і раб ангельскай буржуазіі, побач з імі зьмясьціўся Керанскі—брахун, які страх баяўся рэволюцыі, хацеў усё „прымірыць“ рабочага і капіталістага—павука і муху,—таго, хто сваімі сеткамі душыў, і таго, каго душылі.

А меншавік Чхэідзе назваў лютаўскую рэволюцыю „улыбающейся“, бо сапраўды яна прайшла амаль што бяз крыві; яна ўсьміхалася буржуазіі. Але-ж што дала рабочым гэта рэволюцыя?

Усё засталося па старому. Было толькі рашчышчана поле для барацьбы, была заваявана „куцая“ політычная воля. Рабочая кляса выйграла мала, сялянства атрымала яшчэ менш. Зямля засталася ў паноў, фабрыкі—у капіталістых. Працоўным прапанавалі чакаць да... Учрадзіцельнага сходу *), тэрмін скліканьня якога адкладваўся са дня на дзень, і так, як раней, лёзунгам улады было: „Вайна да пераможнага канца“.

### Ад Лютага да Кастрычніка.

Чатыры галоўных пытаньні павінна была разьвязаць лютаўская рэволюцыя.

Першае пытаньне—аб вайне. Тут, цесна зьвязаны з ангельскім і францускім капіталам, Часовы ўрад хлусіў перад масамі аб жаданьні заключыць „дэмократычны, правільны мір“—сам-жа прадаваў

*) Учрадзіцельны сход, які абяцала і ня склікала часовая ўлада, уключаў у сябе прадстаўнікоў усіх клясаў, а значыцца, і буржуазіі—што ад гэтага магло выйсьці?

расійскіх салдат у Францыі, паслаў 18-га ліпеня ў страшэнны па сваёй жорсткасьці наступ расійскіх салдат.

Другое пытаньне—аб зямлі. Яго не разьвязаў Часовы ўрад, пакінуў зямлю ў паноў, а калі змучаны і згаладаны расійскі селянін „самачынна“ пачаў захапляць зямлю, Часовы ўрад жалезам і крывёю стаў успакойваць сялянскія „бунты“.

Трэцяе пытаньне -- рабочае. Прамыслоўцы, занепакоеныя націскам рабочых на капітал, пачалі наладжваць лёкауты (гаспадарчыя стачкі), зачыняючы фабрыкі, скарачаючы вытворчасьць, выкідваючы рабочых на вуліцу. Барацьба паміж рабочымі і капіталістымі абгастрылася і паглыблялася, сотні і тысячы стачак, якія сьведчылі аб тым, што ня гледзячы на ўсе стараньні здраднікаў-меншавікоў, супярэчнасьці паміж працай (рабочым) і капіталам (буржуазіяй) не зьмяншаліся.

І чацьвертае пытаньне—нацыянальнае ня было вырашана Часовым урадам. Украіна, Фінляндыя, Беларусія, Грузія— на ўсіх налажыў лапу новы ўрад, выклікаючы многа канфліктаў (сутычак) на глебе імкненьня асобных нацыяў да вылучэньня. І ў той час, як буржуазія разам з меншавікамі абманвала народ сваімі абяцаньнямі, пролетарыят сабраў свае сілы і праз армію тысячамі і мільёнамі ніцяй зьвязваўся з сялянствам.

Лёзунгі бальшавікоў: міра, хлеба, волі— робяцца лёзунгамі ўсіх працоўных.

**Цень гэнэральскага бота.**

На другім канцы таксама йшла мобілізацыя сіл. Пасьля няўдалага наступленьня на фронце (18 ліпеня) стала яскравым, што масы гэтай вайны, вайны для прыбыткаў заводчыкам і фабрыкантам, ня хочуць. Буржуазія яскрава наглядала рэволюцыйны ўздым і ў рабочай клясе, і ў вёсцы, і ў арміі, і яна паставіла ў парадак дню гэнэральскі бот (сапог). Гэнэрал Карнілаў рашыў жалезам і кроўю правучыць народ. Карнілаў падняў верныя яму войскі і рушыў іх насупроць рэволюцыйнага Петраграду. Карнілаў пісаў: „Усім, усім, усім. Я, гэнэрал Карнілаў, абвінавачваю Часовы ўрад на чале з Керанскім у таемным згаворы з нямецкім гэнэральскім штабам, а пагэтаму я, як „ісьціны рускі“, абараняючы родную старонку, воляю бога бяру вярхоўнае камандаваньне і часовае кіраваньне старонкай на сябе, а Часовы ўрад абвяшчаю па-за законам“. Выступленьне Карнілава адчыніла перад працоўнымі настаяшчы твар Часовага ўраду, ён аказаўся пабудаваным на гэнэральскай глебе. Керанскі—соцыялістыздраднік, быў параднай асобай для масы, настаяшчы-ж твар — гэнэрал на белым кані. Керанскі спужаўся выклíканай ім цені контр-рэволюцыі і выдаў Карнілава, але бязумоўна, што Карнілаўшчына, мабілізаваўшы масы супроць сябе, выявіла перад імі іх сілу, адчыніла праўду перад працоўнымі: альбо барацьба, альбо пагібель усіх заваёў лютага і будучых заваёў. Карнілаўшчына прыблізіла Кастрычнік. Пасьля карнілаўшчыны бальшавізм стаў волацкімі крокамі заваёўваць розум мас.

**Ліст тав. Леніна [1]).**

„Дарагія таварышы!

Падзеі так яскрава паказваюць нам нашу задачу, што зьмяншэньне тэмпу працы азначае настаяшчае злачынства.




Мы рыхтуемся спаткаць Кастрычнік.

[1]) Маскоўскаму і Петраградзкаму Камітэтам партыі бальшавікоў (пачатак Кастрычніка 1917 г.). Ліст друкуецца з скарачэньнем.

Аграрны [2]) рух расьце, урад узмацняе дзікія рэпрэсіі [3]). У войску прыхільнасьць да нас расьце, 99 проц. галасоў салдат за нас у Маскве [4]), фінляндзкія войскі і флёт супроць ураду.

У Нямеччыне пачатак рэволюцыі бясспрэчны, асабліва пасьля расстрэлу матросаў. Выбары ў Маскве—47 проц. [5]) бальшавікоў—магутная перамога.

Чыгуначныя і паштовыя служачыя ў супярэчнасьці з урадам.

Пры такіх умовах „чакаць"—злачынства.

Бальшавікі ня ў праве чакаць Зьезду Саветаў; яны павінны ўзяць уладу зараз-жа. Гэтым яны выратоўваюць і ўсясьветную рэволюцыю (бо іначай пагражае згавор імпэрыялістых усіх краін, якія пасьля расстрэлаў у Нямеччыне будуць прыхільны адзін другому і аб'яднаюцца супроць нас) і расійскую рэволюцыю, іначай хваля настаяшчай анархіі [6]) можа стаць мацней, чым мы) і жыцьцё сотні тысяч людзей на вайне.

Чакаць — злачынства. Чакаць Зьезду Саветаў—дзіцячая гульня ў фармальнасьць, ганебная гульня ў фармальнасьць, здрадніцтва рэволюцыі.

Калі нельга ўзяць уладу без паўстаньня, трэба йсьці на паўстаньне зразу-ж.

Перамога забясьпечана, і на $^9/_{10}$ шансы, што бяз крыві.

Чакаць — здрадніцтва перад рэволюцыяй.

Прывітаньне. **Н. Ленін.**

---

[2]) Аграрнае—сялянскае.
[3]) Рэпрэсія—расправа.
[4]) 99 з 100—амаль усе.
[5]) Амаль палова.
[6]) Анархія—бязуладзьдзе, беспарадак, хаос.

# БУДЗЕМ РЫХТАВАЦЦА ДА КАСТРЫЧНІКА.

*(П р а ц я г.)*

наступных аддзелах выстаўкі піонэрскай работы:

1) Наша грамадзкая работа.
2) Кастрычнік у мясцовым жыцьці.
3) Піонэрскі атрад і нашы задачы.

Па першаму аддзелу выстаўкі атрад падлічвае ўсю праробленую ім грамадзка-практычную работу ў сваім прадпрыемстве, вёсцы і выстаўляе ў выглядзе малюнкаў, дыяграм, цікавых водзываў аб карысьці работы, якая была праведзена піонэрскім атрадам.

Трэба паказаць і тое, што было кепска зроблена атрадамі, што можа атрад зрабіць надалей, і што ён намеціў.

Аддзел „Кастрычнік у мясцовым жыцьці" павінен паказаць відавочныя дасягненьні Кастрычніка ў акаляючым жыцьці. Гэтыя веды, сабраныя піонэрамі ад сваіх бацькоў, матак, братоў—будуць цікавымі для выстаўкі. Дзеля гэтага атрад павінен будзе даць заданьне зьвеньням сабраць гэтыя матар'ялы; вядома, што гэта работа павінна праводзіцца ў цеснай сувязі са школай і з удзелам настаўніка. Тут ня трэба ставіць сваёй задачай выявіць усе бакі жыцьця свайго раёну, а трэба ўзяць асобныя галіны, прыкладна, культурнае жыцьцё, асьвету, і зрабіць належныя падлічэньні, што было раней і што маецца зараз.

У аддзеле „работа атрада і наша задача" выстаўляецца ўнутраная работа атрада: склад атрада, яго рост, соцыяльны склад. Лік праведзеных сходаў, работа насьценнай газэты, майстэрняў, работа з газэтамі і г. д. Усе гэтыя матар'ялы ў выглядзе малюнкаў, дыяграм і павінны характарызаваць, як дадатныя, так і адмоўныя бакі работы, што паможа намеціць работу атрада і на далейшы час.

Выстаўка, такім чынам, будзе лепшым паказальнікам таго, што зрабіў атрад і наколькі ён сваёй работай зьвязаўся з акаляючым жыцьцём свайго завода, фабрыкі, вёскі, дзе працуе піонэрскі атрад.

**Павадыр.**




## I. Задачы і забавы.

### № 1.

Пачаўшы ад аднэй з сярэдніх клетак, ходам шахматнага каня і караля (адзін пасьля другога) прачытаць пачатак вядомай беларускай песьні.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| к | і | д | | | з | е | г |
| а | е | а | ь | ц | у | я | ч |
| р | ц | л | у | н | а | д | ь |
| | п | з | ь | к | м | е | |
| | а | а | а | ч | у | ц | |
| ы | а | н | а | т | ж | л | п |
| ц | х | е | і | л | е | м | я |
| й | ў | м | | | н | м | н |

### № 2.

Калі хлеб бывае ежай з малака?



Знайдзеце на гэтым малюнку другога хлопчыка-дрывасека.

## Яшчэ аб сагнутых запалках.

### Вопыт I.

Сагні 5 запалак. Расстаў іх як паказана на малюнку (1а), і капні ў цэнтр О кроплю вады. Цяпер садзіся і глядзі, што будзе далей. Калі вопыт зроблены акуратна, тады зробіцца правільная 5-цёхкутная зорка (мал. 1b).



### Вопыт II.

Выраж з тоўстае паперы фігуркі, як паказана на малюнку (2), прымацуй сургучом да фігурак сагнутыя запалкі. Калі фігуркі будуць гатовы, палажы іх на мокры сподак. Яны пачнуць варушыцца.

### Вопыт III.

Ці запаліш ты запалку вадою? Бязумоўна, усякі адкажа, што не. Тымчасам, ты можаш гэта зрабіць, абставіўшы вопыт, як паказана на малюнку (3).

## Загадкі

1. Калі чалавек бывае зайцам?
2. Колькі раз трэба паўтарыць і якую літару, каб атрымаць тое, за чым вы кожны сядзіцё?
3. Якога каменя ў моры ня бывае?
4. Адзін піонэр кінуў угару адной рукой 10 яблыкаў, а другой усе і злавіў іх. Як гэта магло здарыцца?
5. Дзесяць пальцаў, а ногцяў няма. Што гэта?
6. Калі не згару, дык і ў вадзе не ўтаплюся і ў зямлі ня згнію. Хто я такі?
7. Ляжыць—ніжэй курыцы, устане—вышэй каня.

1-ая Дзяржаўная друкарня. Заказ № 3388. У ліку 2350. Галоўлітбел № 26343.